*望聞問切

**КАВАЛАК ВЯРБЫ ЗАМЕСТ КОСЦІ — АПЕРАЦЫІ КІТАЙСКІХ ЛЕКАРАЎ.**

# КОСЦІ з ВЯРБЫ

БАДАЙ год назад мы пісалі аб кітайскім спосабе лячэння іголкамі многіх хвароб. Калі чытач прыпамінае, лячэнне іголкамі заключаецца ў тым, што, каб вылечыць якую-небудзь хваробу, напрыклад, туберкулёз, трэба накалоць адпаведную пляму (адпаведнае месца на чалавечым целе) іголкай. Лячэнне іголкамі ў Кітаі праводзіць так званая **народная медыцына** або інакш **традыцыйная медыцына**.

Кітай — краіна вельмі старой культуры і навукі. І народная медыцына тут мае некалькітысячагадовую гісторыю. Пачаткі яе ідуць у мінулае 4 тысячы год назад. Тысячы год назад кітайскія лекары рабілі складаныя аперацыі. У перыяд 1279—1368 (дынастыя Хуан) выдзелілася нават спецыяльная галіна хірургіі, зв. (гаворачы па-нашаму) **прышчэпліваннем косці.** Як і ўся медыцынская навука ў той час, і гэтая галіна медыцыны трымалася ў вялікай таямніцы. Свае веды і спосабы майстры — лекары перадавалі перад смерцю вусна самым здольным сваім вучням.

Сёння раскажам чытачу пра яшчэ адзін цуд народнай кітайскай медыцыны, звязаны з прышчэпліваннем косці.

Лю Та-фу быў вучнем старога практыка - лекара, у якога вучыўся медыцынскаму майстэрству. Перад смерцю стары лекар свае таямніцы перадаў вучню Лю Та-фу. Лю Та-фу пастанавіў выпрабаваць метад. Сябры насмейваліся з яго, але ён стаяў на сваім: калісь удавалася, павінна і цяпер удацца. Па шматлікіх няўдачах прыйшла перамога. Лю Та-фу правёў аперацыю на сабацы. Выразаў яму ў назе кавалак косці і на яе месца ўставіў кавалак свежай вярбы. Прайшло два месяцы. Сабака ўжо падпіраўся хворай нагой. А пасля пяці месяцаў бегаў і скакаў, як бы яму ніколі не ламалі нагі.

Сярод лекараў зашумела. Не верылі. Лю Та-фу вымушан быў нанава рэзаць сабаку, каб даказаць, што кавалак вярбовага дрэва ўстаўлены на месца знішчанай косці, бывае арганізмам прысвоены і робіцца... косцю.

Дайшло і да чалавека. Лю Лі-су, рамесніку з акругі Тунеі ў час працы патрушчыла левую нагу. Лекары сказалі, што трэба ампутаваць (адрэзаць) нагу. Лю Лі-су сказаў аднак, каб яго завесці да доктара Лю Та-фу, бо калісь у газеце чытаў аб яго аперацыі з сабакам. Завезлі. Нага выглядала страшна. Ужо распачалася гангрэна. Доктар ачысціў рану, выкінуў 8-сантыметровы кавалак раздушанай косці і на гэтае месца ўставіў дакладна дапасаваны кавалак свежай вярбы. На рану нашыў скуру з пеўня. У сярэдзіне і зверху пасыпаў адпаведнымі парашкамі, якія баранілі рану ад бактэрый. Праз 7 дзён хворы піў навар з зелля тсэ-ку-тан і кораня жэнь-шэ-ня і еў толькі агародніну і садавіну.

Па некалькі месяцах пабыўкі ў бальніцы Лю Лі-су быў здаровы. Прасвятленне паказала, што косць зраслася роўна.

Цудоўная аперацыя цяпер не адзіны выпадак. Звыш 1.000 людзей прайшло такую аперацыю, заўсёды ўдачна.

У Кітаі развіваецца і сучасная медыцына. Але сваё пачэснае месца справядліва займае традыцыйная народная медыцына.

Цікава ведаць, што народнай медыцына абапіраецца на лячэнне раслінамі, а не хімічнымі сродкамі.

Вядома, напрыклад, што тысячы траў, якія растуць у Кітаі — гэта неаднойчы адзінае лякарства на хваробы, перад якімі сучасная медыцына яшчэ бяссільна. Спецыяльныя травы лечаць рак маткі, рак горла, пры дапамозе траў вылечаны цяжкія выпадкі рака жалудка. У горах Сечуану з давен - даўна збіралася расліна тсін-тсян-тсяо, якая знішчае жоўцевыя камені (сучасная медыцына жоўцевыя камені лечыць толькі шляхам аперацыі). Жыхары павета Шэнсі ведаюць зелле, якое лечыць цукровую хваробу (цукрыцу).

Зараз у Кітаі ідзе работа, каб сабраць усе веды і спосабы народнай медыцыны, запісаць іх і аддаць на ўслугі людзям разам з дасягненнямі сучаснай медыцыны.

* Напіс гэты абазначае чатыры асновы кітайскай медыцыны: «глядзець, слухаць, пытаць і даследваць».



Лекар Гу Тсін-тсан перадаў у Інстытут Традыцыйнай Кітайскай Медыцыны 656 тайных рэцэптаў.




1. Касцюм з габардзіну або трыко. Дапасаваны. Жакет зашпільваецца на чатыры гузікі; кішэні праразныя з планкамі. Спадніца вузкая, ззаду са складкай.

2. Маладзёжны касцюм з шарсцяной тканіны. Жакет дапасаваны. Рукавы ўстаўныя, даўжынёй сем васьмых; кішэні праразныя. На расклёшанай спадніцы спераду тры сустрэчныя складкі.

3. Прамая неадразная па таліі сукенка з шарсцяной тканіны. Зашпіляецца да-нізу, аздоблена строчкай. На спінцы ззаду аднабаковая складка.

4. Шарсцяная сукенка, неадразная па таліі. Спераду да вытачак прышпільваецца хлясцік. Рукавы ўстаўныя, даўжынёй тры чвэрткі. Вялікі адкладны каўнер, устаўка і манжэты — з белага піке.

# кораткаДЫясна

Мяккая вада вельмі добрая не толькі пры сцірцы бялізны, але і ў жывёлагадоўлі. Кажуць, што каровы, якіх пояць толькі мяккай вадой, даюць у два разы больш малака, чым тыя, якіх пояць цвёрдай вадой. Што-ж, варта спрабаваць.

*

60 год назад у Падуане (Італія) надрукавана найменшая кніжка ў свеце. Размер яе быў 1 квадратны сантыметр. Мела яна 208 старонак. У каробку ад запалак можна змясціць аж 15 такіх кніг.

*

Найстарэйшым часопісам у свеце з'яўляецца кітайская штодзённая газета «Хунг Пао». Выходзіць яна ад 912 года да сёння. Можна ўявіць сабе, колькі працы там мае архівіст, улічыўшы, што рэдакцыя мае ўсе нумары сваёй газеты ад пачатку.

*

Моду насіць манжэты ў нагавіцах міжвольна ўвёў англійскі кароль Эдуард VII. Увайшоўшы ў салон пасля шпацыру ў дождж, ён забыў адвінуць нагавіцы. Лондонскія эліганты пайшлі адразу следам караля.

*

Вядома, што найперш былі водныя гадзіннікі, пескавыя, агнявыя — у выглядзе гарэўшай свечкі, на якой былі лініі, якія абазначалі адпаведную гадзіну.

Дасціпны кітайскі майстар удасканаліў агнявыя гадзіннікі: прыдумаў кнаты з дадаткам розных пахучых вадкасцей. У выніку, такі гадзіннік кожную гадзіну выдзяляў іншы пах.

Можам сабе ўявіць такія размовы:

— Хадзем спаць, бо мне ўжо з паўгадзіны пахнуць фіялкі.

— Ужо былі васількі і гваздзіка, а гэтага хлопца яшчэ няма са школы.

— Была ў цябе Ляо-Чао і прасіла, каб ты зайшоў да яе, як толькі пачуеш мяту.

Р.






— Гэта вы скардзіліся, што ў чаі нешта плавае?
— Я.
— Можаце піць. Яно ўжо патанула.

«Перац».

## Турысты на экскурсіі

Гід:
— Ну-с, а для пачатку мы абыйдзем вакол гарадской сцяны...

(З нямецкага гумару)

## У Варшаве

Прахожы чалавек пытае ў аднаго з экскурсантаў:
— Прабачце, адкуль гэтая экскурсія?
— З Пасынак.
— А дзе гэтыя Пасынкі?
— А там, каля Сакоў, — адказаў экскурсант.

В. В.

## У доктара

Пацыент, якога доктар дакладна агледзеў, пытаецца:
— Скажыце што мне ёсць?
— Многа п'еце і курыце, — растлумачыў доктар.
— Дзякую, а цяпер скажыце тое самае на лацінскай мове, каб я мог паўтарыць жонцы.

## Выпадак

Старая цётка гутарыць са сваім знаёмым, які распытвае:
— У мінулую зіму я паслізнуўся на вуліцы і праляжаў чатыры тыдні.
— Чатыры тыдні, — дзівіцца цётка, — і ніхто вас не падняў?

Ашукаў дзеда.

З часопіса «Народная Румынія».

# НЕПАПРАЎНЫЯ ЛЕТУЦЕННІКІ

Заходнегерманская газета «Кёльнішэ Рундшау» ніколі не вылучалася розумам. Таму нікога не здзівіла паўтарэнне на яе старонках дэвіза Адэнауэра аб тым, што ў германскай праблеме немагчыма абмежаваць патрабаванні «свабодных выбараў».

Для абгрунтавання тэзіса аб важнасці «свабодных выбараў» яна звяртаецца да прыкладаў іншых краін. Газета сцвярджае, напрыклад, што адмова ад «свабодных выбараў» у Польшчы прынесла польскаму народу вялікае няшчасце.

І адкуль раптам столькі клопатаў аб польскім народзе?

Адказ, аднак, дае сама газета: «Каб Польшча была дэмакратычная і свабодная, нямецка - польскія граніцы былі б даўно ўрэгуляваны, а гэта прычынілася б да задавальнення патрабаванняў».

Каментарыі не патрэбны. Застаецца толькі запытаць: «Хапіла б Памор'я, Шлёнска, Мазураў, ці запатрабавалі таксама Гданска, Калідсра, Познані?»

Непапраўныя летуценнікі...

У. Л.

# АЛЬТЭРНАТЫВА

Гарачае, грамадзяне, пайшло жыццё...

І гарачае і складанае...

І найгоршае ў гэтым жыцці тое, што яно, гэтае жыццё, з кожным днём усё больш ускладняецца...

Галава калёсіць, схіляецца на рукі, і ў галаве той па баразнах вялікага мозгу поўзаюць думкі, як чорныя мухі:

— Што рабіць?

Што рабіць, бо вельмі пачалі цапаць...

Як хапануў, так і цапнулі...

І ці ты скарбнік, ці ты агент, ці ты магазінер, ці ты намдыр, ці сам дыр, намстар, ці стар — усё адно, не памілуюць!..

І ці хапануў ты казённыя грошы, ці спулдзельчыя, грамадскія ці дробчатаварнай ініцыятывы, — усё адно: не памілуюць!..

І ці хапануў ты грошы праз «крытычны матэрыяльны стан», ці пусціў на «банкеты», ці, «кіруючыся» найгуманнейшымі парывамі дапамагчы беспрытульным дзецям, прайграў на таталізатары, — усё адно: не памілуюць!..

І ці (Божа мой, Божа мой!) меў ты рэвалюцыйныя заслугі, ці можа потым меціmеш, — усё адно: не памілуюць!..

Жорсткі народ пайшоў...

І (о, Божа мой! Божа мой!) кажуць, што і не мілаваціmуць!

Кажуць, што не мілаваціmуць нават і ў тых выпадках, калі вы прысягаць будзеце на судзе, што хоць вы, маўляў, і не маеце асаблівых заслуг перад народнай уладай, але абяцаеце, што на выпадак наступу чорных сіл, вы Адэнаўэра самі ў палон захопіце...

Ні на што не спадзявайцеся... І калі станеце перад судом, не кажыце:

— Даруйце мне, грамадзяне суддзі, я Вал паморскі сам вазьму!

Не памілуюць!

Жыццё вельмі складанае пайшло...

Прапалі тыя цудоўныя часы, калі былі цудоўныя пасады, дзе... «падлатацца» можна было!..

Прапала «падлатка»!..

І высунула няўмольнае жыццё магутную альтэрнатыву:

— Або не хапай! Або цябе схопяць!

Адно, што засталося ўсім хапунам, — гэта прысароміць народную ўладу, што яна «пазычыла» ў прарока Маісея яго восьмую запаведзь:

— Не крадзі!

Толькі наўрад ці засароміцца!

Аднавіў Астапа Вішню

Кропка

# ПРЫКАЗКІ ПРЫМАЎКІ

ХТО БАІЦЦА, ТАГО У ВАЧАХ ДВАІЦЦА.
МОРА ТАКСАМА З КРОПЕЛЬ СКЛАДАЕЦЦА.
ДВА ЧАЛАВЕКІ МАЦНЕЙШЫЯ ЗА ДЫВАЦЦАЦЬ СКАЛОЧАНЫХ
ХТО ДАЕ, ТАМУ ПЯЦЬ МНОГА; ХТО БЯРЭ, ТАМУ ШЭСЦЬ — МАЛА

# З Храбустоўкі МІША а ГРЫША з Крыўца

Эх, чароўна грае Грыша
На гармоніку сваім;
А яму уторыць Міша,
Што аж дух займае ўсім.

Маладыя гэта хлопцы,
Па якіх 17 год,
А ўжо музыкай зьзіўляюць
Навакольны наш народ.

І здаецца, чуць кранаюць
Па бліскучых клавішах,
А чароўны песні - зыкі
Міла льюцца у вушах.

Гукі - тоны нібы плачуць,
І ўздыхаюць ў тон басы,
І ў паднебныя прасторы
Ляцяць песень галасы.

Ні вяселле, ні хрысціны,
Не абыдзецца без іх.
Іх усюды запрашаюць,
Як знаёмых, як сваіх.

ЯНКА

## РЭБУС РЭБУС РЭБУС

1-на ў=в сны Я не робіць

Сярод чытачоў, якія правільна прачытаюць рэбус і прышлюць адказы да 1-мая г. г. будзе разлясаваных 10 кніжных узнагарод.